# Голас Радзімы

10 СНЕЖНЯ 1998 ГОДА

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 2000 рублёў.

№ 49
(2607)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі
Бацькаўшчыны. Выдаецца з 1955 г.

ВІЗІТНАЯ КАРТКА ЗАСНАВАЛЬНІКАЎ

**Арсен ВАНІЦКІ, старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі:**

## «КАБ ПАВАЖАЛІ БЕЛАРУСЬ У СВЕЦЕ, ТРЭБА САМІМ ПАВАЖАЦЬ ЗДАБЫТКІ СВАЙГО НАРОДА»

*Ёсць людзі, якіх называюць — чалавек свету. Часцей за ўсё гэта тыя, хто адораны талентам, значнасць якога не ведае межаў. Арсен Ваніцкі з тых, хто пастаянна ініцыіруе справы, стасункі, якія маюць шматгранны вынік і пакідаюць след у душах людзей, незалежна ад іх нацыянальнасці, узросту.*

*Некалі, як намеснік міністра культуры Беларусі, ён меў дачыненне да развіцця народнай творчасці, стварэння манументальных помнікаў. Такіх, як Курган славы, Хатынь, Прарыў, што ва Ушацкім раёне, Брэсцкая крэпасць-герой і іншыя.*

*Пятнаццаць апошніх гадоў Арсен Ваніцкі ўзначальвае Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Незлічонай колькасці людзей ён дапамог адкрыць для сябе Беларусь, палюбіць беларускі народ. Ды і сам пабываў больш чым у 50 краінах, можна лічыць, аб'ехаў амаль паўсвету. Вынік — сёння Арсен Ваніцкі мае шмат сяброў, прыхільнікаў у розных кутках зямлі і нават адну зорку ў Сусвеце: яго імем названа зорка ў сузор'і Аўрыга. Гэта адбылося ў 1993 годзе. Такое рашэнне Міжнародны рэгістр зорак прыняў па прапанове амерыканскіх сяброў Беларускага таварыства дружбы. Як сказана ў дыпломе, Арсен Ваніцкі стаў чалавекам Сусвету за арганізацыю дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы і пашырэнне кантактаў паміж людзьмі планеты. Вакол гэтага чалавека заўсёды аўра дабраты і захаплення, ён умее любіць свой народ, сваю краіну і перадаць гэтыя пачуцці іншым.*

У мяне і маіх калег цяпер часта пытаюцца: як вам працуецца ў такі палітычна напружаны час? Няпроста. Але ж мы зыходзім з таго, што напружанасць на афіцыйным узроўні не павінна быць перашкодай для захавання сяброўскіх адносін непалітызаваных людзей.

У аснове дзейнасці таварыства даўнія традыцыі. Створана наша грамадская арганізацыя ў красавіку 1926 года па ініцыятыве вядомых прадстаўнікоў нацыянальнай інтэлігенцыі — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота. Ужо тады ставілася на мэце збліжэнне народаў, пазнанне гісторыі і культуры замежжа, узаемаўзбагачэнне здабыткамі духоўнай спадчыны. Гэта настройвала на пошук узаемаразумення паміж людзьмі незалежна ад розных поглядаў на тыя ці іншыя з'явы, светаўспрыманне, нацыянальнае паходжанне.

І сёння на гэтай аснове сяброўства прыхільнікаў таварыства ў першую чаргу мацуе ўзаемнае жаданне ладзіць згоду, няхай нават і не з першага спаткання. Здараецца, трывалай яна становіцца праз месяцы і нават гады. Але добрае сэрца беларусаў вабіць да сябе людзей даверам і адкрытасцю. Гатоўнасць да партнёрства ў канкрэтных справах стварае ланцуговую рэакцыю добразычлівасці.

Працэс суверэнізацыі, чарнобыльская трагедыя, іншыя падзеі запатрабавалі ад Беларускага таварыства дружбы пашыраць кола сваёй дзейнасці, вылучаючы дапамогу ахвярам буйнейшай у свеце экалагічнай катастрофы, садзейнічанне развіццю эканамічных стасункаў, збліжэнне поглядаў усіх суайчыннікаў у накірунку, карысным для Айчыны.

Паступова з кожным годам наша таварыства ўмацоўвае давер, набывае новых сяброў у краінах блізкага і далёкага замежжа. Сёння яно аб'ядноўвае 35 нацыянальных таварыстваў дружбы — з Аўстрыяй, Бельгіяй, Балгарыяй, Вялікабрытаніяй, Венгрыяй, В'етнамам, Германіяй, Ізраілем, Індыяй, Ірландыяй, Іспаніяй, Італіяй, Казахстанам, Канадай, Карэяй, Кітаем, Кубай, Латвіяй, Літвой, Ліванам, Малдовай, Манголіяй, Нарвегіяй, Непалам, Польшчай, Расіяй, Славакіяй, ЗША, Украінай, Фінляндыяй, Францыяй, Швейцарыяй, Чэхіяй, Югаславіяй, Японіяй.

Важна, што ў гэтых і іншых краінах створаны і ствараюцца аналагічныя таварыствы дружбы з нашай краінай, асацыяцыі, клубы, накшталт "Майц—Мінск", "Акінава—Беларусь", замежных выпускнікоў беларускіх навучальных устаноў. Яны аб'ядноўваюць людзей, якія вабіць Беларусь. Нядаўна створаны новыя таварыствы дружбы "Нарвегія—Беларусь" і "Індыя—Беларусь". Атрымана таксама паведамленне аб такіх жа намерах грамадскасці Фінляндыі і Бельгіі.

Чым жа выклікана ўзрастаючая цікавасць да Беларусі? Мабыць, у першую чаргу актыўным працэсам умацавання дзяржаўнасці, што адбываецца ў апошнія гады, і, вядома ж, самабытнасцю і здабыткамі беларускага народа. Спрадвеку беларуская культура складвалася на скрыжаванні культурных супольнасцей і адлюстроўвала сінтэз заходніх і ўсходніх традыцый. Таму яна і пажадана як у адным, так і ў другім накірунках. Аб гэтым сведчыць і той факт, што ўзаемадзеянне беларускай культуры з іншымі культурамі пашыраецца. Гэтаму актыўна садзейнічаюць як дзяржаўныя ўстановы, так і грамадскія аб'яднанні, асобныя творчыя калектывы. Да прыкладу, за апошнія пяць гадоў Таварыства дружбы разам з замежнымі партнёрамі арганізавала 49 выездаў мастацкіх калектываў у іншыя краіны, наладзіла там 72 мастацкія выставы.



Адметным фактам з'яўляюцца новыя пераклады сучасных беларускіх літаратараў. Сведчаннем цікавасці да нашай літаратуры стаў выпуск у мінулым годзе балгарскага альманаха "Панарама", цалкам прысвечанага беларускім літаратурным здабыткам.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

BIELARUSSIAN NEWS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BIELORRUSIA

## Тыдзень: Міжнародны агляд. Хроніка падзей. Фотафакты.

● Юрась ДОМНІЧ.

### РАСІЙСКІ КРЫЗІС УДАРЫЎ ПА ДВУХБАКОВЫХ АДНОСІНАХ

Асноўны акцэнт літаральна ўсіх міжнародных кантактаў, якія на мінулым тыдні мела Беларусь, быў скіраваны на эканамічнае супрацоўніцтва ў межах Садружнасці незалежных дзяржаў і, у прыватнасці, з Расійскай Федэрацыяй. Прычым дыялог пераважна ішоў пра пераадоленне тых негатыўных тэндэнцый і канкрэтных праблем, якія з'явіліся ў выніку фінансавага абвалу ў Расіі, галоўнага эканамічнага партнёра Беларусі. 25 лістапада гэта тэма была асноўнай на перамовах прэм'ерміністра Беларусі Сяргея Лінга з кіраўніцтвам Расійскай Федэрацыі, непасрэдна са старшынёй урада Яўгенам Прымаковым.

27 лістапада адбыўся кароткатэрміновы візіт у Мінск мэра Масквы Ю. Лужкова.

Акрамя сустрэч з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, якога мэр называе даўнім сябрам, і сваім мінскім калегам Уладзімірам Ярмошыным, Ю. Лужкоў наведаў Мінскі аўтазавод, Мінскі завод колавых цягачоў, НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі. Вынікі візіту такія: расійская сталіца купіла пробную партыю з 10 аўтобусаў МАЗ, 2,5 тысячы рухавікоў і адкрыла ў Мінску прадстаўніцтва сваёй бізнес-асацыяцыі. Масква па-ранейшаму застаецца адным з буйнейшых партнёраў Беларусі: калі ўвесь тавараабарот з Расіяй складае 8 мільярдаў долараў, то са сталіцай — 2 мільярды. Станам эканамічных адносін з Расіяй занепакоены не толькі ўрад, але і Адміністрацыя Прэзідэнта Беларусі. Яе кіраўнік Міхаіл Мясніковіч, які зараз узначальвае Рэспубліканскі штаб, створаны Прэзідэнтам спецыяльна для пераадолення крызісных з'яў у эканоміцы, 25 лістапада падпісаў рашэнне, у цэнтры ўвагі якога знаходзіцца становішча ў гандлі з разлікі з Расіяй. У ім адзначаецца, што ў кастрычніку аб'ём тавараабароту знізіўся больш чым на 250 мільёнаў долараў ЗША ў параўнанні з тым жа перыядам мінулага года і склаў усяго 717,6 мільёна. Аб'ём экспарту ў кастрычніку знізіўся на 35,4 працэнта. Як вынік, упершыню ў гэтым годзе ўтварылася адмоўнае сальда гандлю з усходняй суседкай. Зразумела, здавальняючым такое становішча ніяк не назавеш, таму Рэспубліканскі штаб прыняў шэраг мер для таго, каб ліквідаваць негатыўныя тэндэнцыі.

Ну і, нарэшце, праблемам узаемадзеяння суб'ектаў гаспадарання Беларусі і Расіі ў межах Саюза была прысвечана нарада прадстаўнікоў шэрагу міністэрстваў у Маскве 30 лістапада. На ёй было вырашана паскорыць узгадненне цэн на прадукцыю, якая пастаўляецца ў Расію ў кошт беларускай запазычанасці за газ. Бакі падрыхтавалі праект міжурадавага пагаднення аб стварэнні аб'яднанай энергетычнай сістэмы.

### МЫ – У АЎСТРЫЮ, ІТАЛЬЯНЦЫ – ДА НАС

На фоне двухбаковых беларуска-расійскіх кантактаў амаль незаўважанымі прайшлі іншыя падзеі на міжнароднай арэне, у якіх брала ўдзел Беларусь. Але незалежна ад гэтага яны мелі важнае значэнне для краіны. Напрыклад, 1 снежня ў Вене прайшла ўжо трэцяя сустрэча дзелавых колаў Беларусі і Аўстрыі. Узначальваў дэлегацыю нашай краіны кіраўнік Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч, які разам з прадстаўнікамі міністэрстваў і прадпрыемстваў правёў перамовы з кіраўніцтвам Федэральнай эканамічнай палаты Аўстрыі, вядучых банкаў і фірмаў дзяржавы. А ў гэты час у Беларусі знаходзілася дэлегацыя прадпрымальнікаў з Італіі. Бізнесмены наведалі не толькі вядучыя прамысловыя аб'екты Беларусі, але і мелі працяглую гутарку з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам. Апошні на сустрэчы заявіў, што наша дзяржава зацікаўлена ў пашырэнні кантактаў з італьянскімі прадпрымальнікамі. С. Лінг падкрэсліў, што ў Беларусі створана спрыяльная заканадаўчая база для прыцягнення і абароны замежных інвестыцый. Такім чынам, Беларусь падкрэслівае сваё імкненне да супрацоўніцтва не толькі з усходнімі партнёрамі, але і з развітымі еўрапейскімі краінамі.

### ПА ЯКОМУ ШЛЯХУ ІСЦІ СЕЛЬСКАМУ ГАСПАДАРУ?

Сусветны банк выступіў адным з арганізатараў семінара "Сучасны стан сельскагаспадарчых рэформ у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы: урокі і варыянты магчымага выбару", які прайшоў 25 лістапада ў Мінску, у Нацыянальнай акадэміі навук. Мерапрыемства было карысным ужо тым, што беларускім навукоўцам і практыкам прадастаўлялася зручная магчымасць пазнаёміцца з прыкладамі рэфармавання сельскай гаспадаркі ў краінах, якія яшчэ нядаўна знаходзіліся ў аднолькавых умовах. Напэўна, вынікі семінара знойдуць практычнае прымяненне, бо сёння сельская гаспадарка Беларусі апынулася ў крытычным становішчы. Прычым нават афіцыйныя органы дзяржавы прызнаюць складанасць сітуацыі.

### ПЕРАКОНВАЦЬ, ПЕРАКОНВАЦЬ І ЯШЧЭ РАЗ ПЕРАКОНВАЦЬ...

Выключна палітычны характар мела сустрэча кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў краін АБСЕ, якая прайшла 2 снежня ў сталіцы Нарвегіі Осла. У нарадзе ўзяў удзел і міністр замежных спраў Беларусі Іван Антановіч. Па сутнасці гэта была апошняя падобная сустрэча ў гэтым годзе, на якой апошні раз старшынстваваў міністр замежных спраў Польшчы Б. Герэмэк. Нягледзячы на тое, што ён мае даволі прахалоднае стаўленне да палітычных пераўтварэнняў, якія адбыліся ў Беларусі ў апошнія два гады, І. Антановіч паехаў у Осла з ранейшай мэтай. Міністр спадзяецца на перамовах са сваімі калегамі паспрыяць змене поглядаў, якіх прытрымліваюцца краіны АБСЕ ў адносінах да сітуацыі ў Беларусі.

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма"), калектыў рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" выказваюць спачуванне ганароваму старшыні праўлення таварыства "Радзіма" КАРТЭСУ Сяргею Альбертавічу ў сувязі са смерцю МАЦІ.**

**Таварыства "Радзіма", газета "Голас Радзімы".**

● ЭКСПАРТ

Дырэктарам гомельскіх прамысловых прадпрыемстваў рэкамендавана арыентаваць свае вытворчасці на рынкі Еўропы, паўднёва-ўсходняй Азіі і Кітая. Беларускі металургічны завод, напрыклад, больш 60 працэнтаў прадукцыі пастаўляе ў далёкае замежжа. А таму прадпрыемства рэгулярна разлічваецца з бюджэтам, своечасова выплачвае заработную плату. Іншая сітуацыя ў аб'яднанні "Гомсельмаш", зарыентаваным толькі на рынкі былога Саюза. З 28,2 мільярда рублёў, якія запазычылі прамысловыя прадпрыемствы вобласці сваім рабочым па заработнай плаце, асноўная доля прыпадае менавіта на "Гомсельмаш".

● УКАРАНЕННЕ

У горадзе Міронаўка Кіеўскай вобласці адкрыта зборачная вытворчасць грузавых аўтамабіляў МАЗ. Яна арганізавана на базе мясцовага аўтаагрэгатнага завода. З варот прадпрыемства ўжо выехалі 18 першых аўтамабіляў. Плануецца, што кожны дзень тут будуць выпускаць па адной вялікагрузнай машыне, а ў перспектыве — 50 МАЗаў у месяц.

● СТАТЫСТЫКА

У Беларусі на 1 кастрычніка 1998 года пражывала 10 мільёнаў 186,5 тысячы чалавек. Статыстыка адзначае, што працэс скарачэння колькасці насельніцтва ў гэты перыяд у нас па-ранейшаму працягваўся, але ў параўнанні з мінулым годам крыху запаволіўся.

За гэты ж час у Беларусь на пастаяннае месца жыхарства прыбыло 23 027 чалавек. З Расіі да нас прыехалі 13 003 чалавекі, з Казахстана — 2 859. А з Беларусі выехалі за дзевяць месяцаў 9 919 чалавек. З іх 4 568 выбралі новым месцам жыхарства Расію, 90 чалавек накіраваліся ў Казахстан. Усяго ж за гэты перыяд памянялі прапіску на краіны СНД і Балтыі 5 860 жыхароў Беларусі.

Скараціўся сёлета працэс эміграцыі грамадзян Беларусі ў краіны далёкага замежжа. Колькасць тых, хто выбыў у Ізраіль, ЗША, Германію, зменшылася ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 860 чалавек.



У акцыянерным таварыстве "Віцебскія дываны" запушчаны васьміколерны двухпалоценны жакардавы станок германскай фірмы "Шонхер" — трынаццаты па ліку ў свеце. У краінах СНД падобнага абсталявання для выпуску дыванова вырабаў няма. Толькі за лістапад на ім выраблена 363 тысячы квадратных метраў прадукцыі. На звычайных станках за ўвесь год выраблялася толькі 920 тысяч квадратных метраў.

*НА ЗДЫМКУ: начальнік участка Сяргей БРЫКЕТ і ткачыха Інеса ЗАЙЦАВА каля новага абсталявання.*




У Палацы спорту ў Мінску адбыўся адборачны матч другога тура чэмпіянату Еўропы па баскетболу сярод мужчынскіх каманд. Нацыянальная зборная Беларусі прымала каманду Ізраіля. З лікам 71:65 перамогу атрымалі беларускія баскетбалісты.

*НА ЗДЫМКАУ: старшы трэнер нацыянальнай зборнай Анатоль ЯКІМЕНКА дае ўказанні сваім падапечным.*

*Фотахроніка БелТА.*

ДЫСКУСІІ

# АТАМНАЯ ЭНЕРГЕТЫКА НА БЕЛАРУСІ:

*На Беларусі працягваецца дыскусія пра магчымасці развіцця ўласнай атамнай энергетыкі. Спрэчкі вядуцца гарачыя і ў самых розных колах грамадства: ад парламенцкай залы і ўрадавых кабінетаў да вулічных мітынгаў. Адны катэгарычна сцвярджаюць, што без АЭС краіна не здолее вырашыць сваю энергетычную праблему, а нацыянальная эканоміка не набудзе неабходны дынамізм, другія кажуць: хопіць нам чарнобыльскага "бруду", новых радыяцыйных непрыемнасцей (а яны не выключаны пры эксплуатацыі нават і "мірнага", але атама) нацыя проста ўжо не перанясе.*

Каб урэшце прыйсці да канкрэтнай высновы, рашэннем урада створана спецыяльная камісія па ацэнцы мэтазгоднасці развіцця ў Рэспубліцы Беларусь атамнай энергетыкі. Узначальвае камісію Пётр Віцязь, акадэмік, віцэ-прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У яе складзе 34 эксперты, сапраўдныя свяцілы беларускай навукі. Але, як паказваюць апошнія падзеі, вучоныя мужы таксама дасюль не прыйшлі да згоды па ўзнятым пытанні. Апаненты стаяць на дыяметральна процілеглых пазіцыях, не маюць супадзення поглядаў ні па адным аспекце гэтага складанага пытання. Прынамсі, апошняе пасяджэнне камісіі, якое адбылося напрыканцы лістапада, прадэманстравала менавіта такі стан спраў. Складвалася ўражанне, што для вынясення канчатковага вердыкту нашым паважаным акадэмікам, дактарам навук (такі ранг практычна ўсіх членаў камісіі) патрэбны дадатковы трацейскі суддзя. Вось толькі хто можа выступіць у падобнай ролі?

Аднак згодна з патрабаваннем урада, да канца снежня камісіі неабходна не толькі канчаткова вызначыцца, але і прыняць на сябе адказнасць за прынятае рашэнне. Справа гэта надзвычай важная, бо Беларусь адносіцца да краін з энергаёмістымі галінамі прамысловасці. А колькасць уласных паліўна-энергетычных рэсурсаў летась, напрыклад, не перавышала пятнаццаці працэнтаў ад усяго валавога спажывання. Таму ў аб'ёме агульнага імпарту доля энергарэсурсаў у грашовым выглядзе дасягала прыкладна 60 працэнтаў і складала каля 2 мільярдаў долараў ЗША.

Зараз на ўласных электрастанцыях Беларусі выпрацоўваецца 77 працэнтаў (у асноўным на імпартным газе) неабходнай электраэнергіі і 23 працэнты пакрываюцца імпартам электраэнергіі са Смаленскай і Ігналінскай атамных электрастанцый. Аднак з цягам часу, па ацэнцы спецыялістаў, імпарт электраэнергіі з Расіі будзе значна зніжаны, а зношанасць уласнага энергетычнага абсталявання такая, што з 7,4 мільёна кілават да 2015 года застануцца толькі 3 мільёны. Карацей кажучы, пытанне: "Што рабіць?" патрабуе адказу, прычым неадкладнага.

# Арсен ВАНІЦКІ: «КАБ ПАВАЖАЛІ БЕЛАРУСЬ У СВЕЦЕ, ТРЭБА САМІМ ПАВАЖАЦЬ ЗДАБЫТКІ СВАЙГО НАРОДА»



*Урачыстасць з нагоды 70-годдзя таварыства.*

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Дарэчы, у адказ у часопісе "Полымя" змешчана падборка твораў балгарскіх пісьменнікаў. У выніку супрацоўніцтва беларускіх і нямецкіх пісьменнікаў быў выдадзены альманах пад назвай "Беларусь — мова, якая выстаяла". Прывяду яшчэ некалькі фактаў, якія абнадзейваюць. Перакладчык з Чэхіі Вацлаў Жыдліцкі ўдастоены звання ганаровага прафесара Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а беларускі паэт Сяргей Законнікаў стаў лаўрэатам некалькіх міжнародных прэмій. Яго імя таксама ўнесена ў спіс лепшых паэтаў Еўропы.

Нягледзячы на цяжкі час і вялікія выдаткі на літаратурную справу, замежныя чытачы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з творамі Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Івана Чыгрынава, Васіля Зуёнка, Анатоля Вярцінскага, Алеся Разанава, Сяргея Законнікава, Яўгеніі Янішчыц, Святланы Алексіевіч, Валянціны Коўтун. З'явіліся новыя пераклады класікаў беларускай літаратуры. Плённымі застаюцца традыцыйныя сувязі са славянскімі літаратурамі, у першую чаргу — рускай, украінскай, чэшскай, славацкай, польскай.

Карысць ад абмену культурнымі здабыткамі для кожнага народа відавочная. Але яшчэ больш каштоўна, калі сябры застаюцца сябрамі ў экстрэмальных абставінах. Нашы сяброўскія сувязі вытрымалі выпрабаванне і чарнобыльскай трагедыяй. Пакуль урады ўзважваюць усе палітычныя і эканамічныя акалічнасці, асобныя людзі і грамадскія суполкі пастаянна аказваюць дабрачынную дапамогу ахвярам радыяцыйнага атручвання. У рэспубліку дастаўлена медыцынскага абсталявання, лекаў, іншай гуманітарнай дапамогі амаль на 60 мільёнаў долараў. 113 лячэбных устаноў атрымалі ультрагукавыя сканеры для ранняй дыягностыкі захворванняў. Каля 5 тысяч дзяцей змаглі ўмацаваць сваё здароўе, знаходзячыся ў французскіх, аўстрыйскіх, нямецкіх, польскіх сем'ях. Усё гэта пакідае цяпло ўдзячнасці ў сэрцах беларусаў.

Пашырэнню кантактаў паміж народамі асабліва садзейнічае развіццё праграмы "Ад сям'і да сям'і". Гэтая праграма знайшла зацікаўленую падтрымку ў грамадзян ЗША, Францыі, Італіі, Нарвегіі і іншых краін.

Ладзім мы і з міжнароднымі асацыяцыямі "Сіла ў дружбе", "Народная дапамога", "Рабочы саюз самарыцян", Мальтыйскі ордэн і многімі іншымі.

Важна зазначыць і тое, што Беларускае таварыства дружбы аб'ядноўвае найперш за ўсё сваіх знакамітых суайчыннікаў. Вядомыя літаратары, дзеячы мастацтва і народнай творчасці, навукоўцы, працуючы на грамадскіх пачатках, сродкамі народнай дыпламатыі даносяць у блізкае і далёкае замежжа звесткі аб гісторыі, традыцыях, дасягненнях навукі і культуры Беларусі, садзейнічаюць азнаямленню суайчыннікаў з жыццём і культурай народаў іншых краін. Актыўна ўдзельнічаюць у рабоце Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі народны пісьменнік Васіль Быкаў, паэты Анатоль Вярцінскі, Сяргей Панізьнік, народныя артысты Ігар Лучанок, Марыя Захарэвіч, акадэмікі Аляксандр Вайтовіч, Яўген Канапля, Георгій Паплаўскі, Міхаіл Высоцкі, навукоўцы Леанід Лойка, Ірына Шаблоўская, Генадзь Цыхун, многія іншыя прадстаўнікі інтэлігенцыі Беларусі.

Вельмі зацікаўлены беларускія народны дыпламаты ва ўмацаванні сувязяў са шматлікімі суайчыннікамі, якія захавалі любоў да Бацькаўшчыны і праяўляюць цікавасць да яе духоўнага і культурнага жыцця. Яны заўсёды жаданыя людзі ў нашым асяродку.

Беларускае таварыства дружбы адкрыта для ўсіх людзей добрай волі. Мы шчыра вітаем тых, хто жадае мацаваць узаемаразуменне паміж народамі, праяўляе цікавасць да развіцця міжнароднага супрацоўніцтва і тым самым садзейнічае набліжэнню мары аб больш гарманічнай будучыні.



*Віншуюць "Харошкі".*

# ПЕРСПЕКТЫВЫ ЦІ БЕСПЕРПЕКТЫЎНАСЦЬ?

Як вядома, уласных істотных энергарэсурсаў Беларусь не мае. Тое ж невялікае, што ёсць, не пашкодзіла б і прыберагчы, як кажуць, "на чорны" дзень, які здараецца не толькі ў жыцці асобнага грамадзяніна, але і цэлай краіны. Рэштакавыя запасы беларускай нафты прамысловых катэгорый складаюць на сёння 71,2 мільёна тон, спадарожнага газу 9,5 мільярда кубічных метраў. Гэта дазволіць да 2000 года забяспечыць здабычу нафты на ўзроўні 2 мільёны тон у год, але ў наступныя 15 гадоў, як сведчаць разлікі, здабыча будзе зніжацца прыкладна на 1 працэнт штогод. Такі ж несуцяшальны прагноз і адносна газу: у 2010 годзе яго здабыча складзе 160 мільёнаў кубічных метраў супраць 300 у 1990-м.

Што тычыцца торфу, яго запасы пакуль яшчэ значныя і складаюць сёння 78 працэнтаў ад першапачатковых. Але залягаюць яны на тэрыторыях, што выкарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы (39 працэнтаў) ці ў прыродаахоўнай зоне (36 працэнтаў). Тыя ж рэсурсы торфу, якія можна аднесці ў фонд непасрэднай распрацоўкі, — толькі 6 працэнтаў ад агульнай колькасці запасу.

Ёсць яшчэ беларускія гаручыя сланцы і буры вугаль. Але сланцы не з'яўляюцца эфектыўным палівам: ім патрабуецца дадатковая перапрацоўка, а таму кошт атрыманых з іх прадуктаў вышэйшы за сусветны кошт на нафту. Мясцовы ж буры вугаль можна выкарыстоўваць як камунальна-бытавое паліва толькі пасля брыкетавання разам з торфам. Акрамя таго, распрацоўка вугальных радовішчаў у бліжэйшай перспектыве нерэальная, бо не вырашаны экалагічныя праблемы, якія непазбежна ўзнікаюць пры адкрытай распрацоўцы вугалю.

Эксперты прыйшлі да несуцяшальнай высновы: магчымасці істотнага павелічэння нетрадыцыйных і аднаўляемых крыніц энергіі ў Беларусі (дровы, гідраэнергетычныя, ветраэнергетычныя, геатэрмальныя рэсурсы, біямаса, сонечная энергія, фітамаса, адходы) — абмежаваныя. Вось і атрымліваецца, лічаць некаторыя з іх на чале з акадэмікам Алегам Мартыненкам, без ядзернага паліва, без уласнай атамнай энергетыкі краіна не выжыве. Трэба адзначыць, што гэты пункт гледжання знаходзіць значную падтрымку ў верхніх эшалонах улады. Прыхільнікі будаўніцтва АЭС сцвярджаюць: атамная энергетыка найбольш эканамічная, экалагічна чыстая, бяспечная (?!) і нават карыстаецца падтрымкай насельніцтва Беларусі, а таму прапануюць ужо ў 2010 годзе ўвесці ў дзеянне першы блок беларускай АЭС, а ўсю станцыю (праектнай магутнасцю прыкладна 2500 МВт) да 2020-га...



*Часовая царква ў армейскай палатцы на месцы будучага храма-помніка ў гонар абраза Божай Маці "Усіх смуткуючых радасце", закладзенага ў 5-ю гадавіну чарнобыльскай катастрофы.*

Праціўнікі такога праекта, у сваю чаргу, абвяргаюць ці не кожны з аргументаў "атамшчыкаў". Яны кажуць: атамная энергетыка — гэта вельмі дорага, небяспечна, не на карысць акаляючаму навакольлю. Больш таго, запасы ядзернага паліва яшчэ больш абмежаваныя, чым арганічнага, і ўвогуле атамная энергетыка — паміраючы накірунак у галіне сусветных энергетычных тэхналогій. Адносна ж канкрэтных беларускіх умоў, то пры будаўніцтве АЭС толькі адзін атамны блок магутнасцю 1000 МВт з неабходнай інфраструктурай ацэньваецца ў 6—8 мільярдаў долараў ЗША, што складае тры гадавыя бюджэты Беларусі. І рэальна патрабуецца на ўзвядзенне не менш, чым 13—15 год. У адказ на сцвярджэнні, быццам уласная АЭС дазволіць краіне не залежаць ад пастаўшчыкоў энерганосьбітаў, прыводзяць довад, што ў атамнай галіне залежнасць ад краіны-пастаўшчыка абсталявання, матэрыялаў і паліўных элементаў толькі ўзрасце і набудзе больш жорсткі характар. І, безумоўна ж, лічаць член Міжнароднай акадэміі экалогіі Іван Смоляр, член-карэспандэнт НАН Васіль Несцярэнка, прафесар Георгій Лепін, доктар тэхнічных навук Васіль Ермашкевіч і іншыя, нідзе ў Беларусі апытанне грамадскага меркавання не дало станоўчых вынікаў для прыняцця рашэння аб будаўніцтве АЭС. Іван Смоляр прывёў прыклад, як нейкая група "экспертаў" большасцю галасоў згадзілася з узвядзеннем атамнай станцыі на тэрыторыі краіны. Але калі пытанне было "скарэкціравана" такім чынам, што станцыя размесціцца побач з домам эксперта, адказ адразу ж змяніўся на адмоўны.

Вось і атрымліваецца, што быць ці не быць АЭС на Беларусі, пакуль невядома. Толькі каб не здарылася так, што ў выніку доўгіх і безвыніковых навуковых спрэчак адказваць на пастаўленае пытанне будуць не акадэмікі і прафесары, не грамадскае (няхай і не вельмі кампетэнтнае, але ўсё ж такі зацікаўленае) меркаванне, а якінебудзь чыноўнік у якім-небудзь кабінеце...

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

НА КОНКУРС «БЕЛАРУСЬ У МАІМ СЭРЦЫ»

# ФОТАМАЙСТАР! СЯ




Першая, самая запамінальная для мінчан выстава фотамайстра Сяргея Брушко была на колах. Не ў пераносным, а ў прамым сэнсе. Яна размяшчалася ў салоне трамвая, які курсіраваў праз увесь Мінск. І колькім людзям узнялі тады настрой фотаработы майстра, які глядзіць на свет добрым, спачувальным позіркам!

Але можна шмат гадоў ведаць чалавека, цаніць яго прафесійныя якасці, і ўсё ж раптам здараецца нешта такое, што дае магчымасць па-новаму ўбачыць і ацаніць яго. Сапраўднае адкрыццё Сяргея Брушко адбылося для многіх пасля нядаўняга выхаду ў свет фотаальбома "У пошуках Беларусі. Год 12-ты пасля Чарнобыля" (сумесны швейцарска-беларускі праект).

Нетаропкі, немітуслівы, грунтоўны Сяргей іншы раз так захапляецца знойдзеным сюжэтам, што ніяк спыніцца не можа, усё здымае і здымае... Але менавіта гэтыя самыя "ўедлівасць" і грунтоўнасць не дазволілі Сяргею Брушко з цягам часу пераўтварыцца ў халоднага, абыякавага фіксатара падзей. І мо таму ў большасці здымкаў яго прачытваецца значна болей за спыненае імгненне.

Сяргею Брушко вельмі даспадобы людзі вясковыя. Ён і сам паходжаннем з вёскі Гарадзея, што пад Нясвіжам. І кожны партрэтны здымак ці сцэнка вясковага жыцця (а яно пра... забруджаны... вёсках, не... заўсёды... праявы Чар... быта мален... не. Разгляд... на нейкае і... чаешся да... дзей, які... майстра, с... радуешся, с... імі.

Любіць з... і краявіды. ... тым не то...









# РГЕЙ БРУШКО І ЯГО СВЕТ

цягваецца і ў
іх радыяцыяй
сучы свае, не
прыкметныя
нобыля) — ні-
ькае апавядан-
даючы здымкі,
імгненне далу-
людзей і па-
я зацікавілі
пачуваеш ім,
умуеш разам з

дымаць Сяргей
Магчыма, у гэ-
лькі цяга да

Прыгажосці, а і да спрадвечнай Гармоніі, што закладзена самім Стваральнікам і так бязлітасна намі парушана. Але наталіўшыся з гэтай крыніцы, ён з не меншай ахвотай акунаецца ў вір базара, кірмашу, свята, бо тут заўсёды можна падгледзець нешта, што будзе потым цікава ўсім, каму трапяць на вочы ягоныя здымкі.

Марта КОСЦІЧ.















НОВАЕ ПРА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

# «ПОДЫХ ЮНІ ЎХОДЗЯЧАЙ МАЁЙ...»

*Прыходзіць час, калі раптам пачынаеш рэальна адчуваць, што ўсё тваё сёння складаецца з учора. І дзіўна: пераажытае зусім не гняце цябе, хаця ў ім здаралася рознае. Але затое кожны новы дзень вяртае да нейкіх вельмі дарагіх імгненняў. І ты са здзіўленнем для сябе адзначаеш, што ўсё засталося з табою і нікуды не знікла. Мінулыя гады забралі нікчэмнае і павярхоўнае. А галоўнае было і будзе. Пакуль ты здольны дыхаць, адчуваць, думаць...*

*Згадваючы цяпер вядомую фразу Антуана дэ Сент-Экзюперы: "Самая вялікая раскоша — раскоша зносін паміж людзьмі", разумееш: самы шчаслівы з нас той, каму ў юнацтве выпала Сяброўства. Не проста кампанейска-прыяцельскія адносіны маладосці, а тая ступень шчырасці і даверу, магчымая толькі ў юнацкія гады, калі сваё "я" ты выяўляеш у другой, роднай табе душы, і ўсе вашы сустрэчы — свята. Таму што ў іх — радасць пазнання свету і сябе. А яшчэ тая падтрымка, на якую здольны толькі Сябар. І якая патрэбна табе ў момант самай адчайнай безвыходнасці...*

*З аднакурсніцай У. Караткевіча, галоўным бібліятэкарам Нацыянальнай парламенцкай бібліятэкі Украіны Музай Сняжко (Залеўскай) мяне пазнаёміла сястра пісьменніка Наталля Кучкоўская, калі ў нас у рэспубліцы святкавалі яго 60-гадовы юбілей. Пасля было яшчэ некалькі сустрэч з Музай Яўгенаўнай, якія вярталі мяне ў маё юнацтва. Калісьці ў сценах сваёй Alma mater мы пільна ўглядаліся ў пакаленне "шасцідзесятнікаў". Яны былі для нас духоўным ідэалам. Пазней, калі я ў палоне слова У. Караткевіча спрабавала зразумець для сябе, дзе вытокі такой унутранай роднасці з яго героямі, я часта згадвала сваё студэнцтва. Таму што, нягледзячы ні на што, у ім захаваліся святасць і святло, без якіх нельга стаць чалавекам. І, нягледзячы ні на што, такой жа пранізлівай светлынёй і высокай духоўнасцю прасякнута творчасць Уладзіміра Сямёнавіча.*



*Мне раней здавалася, што ў юнацтве мы пакідаем самае лепшае, што дае нам лёс... Не, не пакідаем. Забіраем з сабою. Яно жыве з намі нябачна для нас саміх.*

*І дае магчымасць раптам уздыхнуць з палёгкаю, зноў паверыць у сабе, як у 16... І згадаць радок паэта "Подых юні ўходзячай маёй..."*

***Галіна ШАБЛІНСКАЯ.***

— МУЗА ЯЎГЕНАЎНА, мне здаецца, першая сустрэча з чалавекам альбо запамінаецца назаўсёды, альбо не згадваецца ўвогуле, бо чалавек можа запасці ў душу адразу ці, наадварот, ты не звярнуў на яго ўвагі. Ваша першая сустрэча з Уладзімірам Сямёнавічам якою засталася для вас?

— Мне зараз цяжка згадаць нейкі канкрэтны эпізод, калі я звярнула ўвагу на Караткевіча. Проста паспрабую аднавіць тыя абставіны, у якіх апынуліся мы, тагачасныя першакурснікі філфака.

Мы сустрэліся 1 верасня 1949 года (пачатак нашай вучобы ў Кіеўскім універсітэце). А было нас усіх амаль 60 чалавек. Частка з іх здавала ўступныя экзамены, там яны і перазнаёміліся. Я была ў групе медалістаў, якіх залічылі на курс без экзаменаў, і я прыйшла на заняткі, нікога не ведаючы.

Спачатку нам чыталі агульныя лекцыі для ўсяго філалагічнага факультэта (славян, раманагерманцаў і інш.). Аўдыторыя — 300 чалавек. Так што сярод такой масы не вельмі даведаешся што пра каго. Калі пачаліся лекцыі лакальныя, тады ўжо мы сталі бліжэй адзін да аднаго. З Валодзем я сустракалася на такіх лекцыях у нямецкай групе і літаратурнай. Не магу зараз сказаць, што ён тады нечым вылучаўся сярод нас. Усе мы былі аднолькава шэранькія, за выключэннем літаральна некалькіх чалавек, больш-менш заможных. Усе мы хадзілі ў адным адзенні, елі на перапынку піражкі па 4 капейкі. Паколькі паступілі пры такім высокім конкурсе (звыш 20 чалавек на месца), то лічылася, што ўсе мы разумныя. У нас яшчэ не праводзіліся практычныя заняткі, і асобы сярод нас пакуль таксама вызначыцца не маглі.

— Якою была атмасфера на курсе? Грамадска-навуковы, так бы мовіць, настрой студэнтаў, выкладчыкаў? І як пачуваў сябе ў гэтым асяроддзі Караткевіч?

— На жаль, стыль навучання тых часоў (49-ы, 50-я гады) — гэта, канешне, грамадскія дысцыпліны: гісторыя партыі, дыялектычны матэрыялізм, гістарычны і інш. Семінары бясконцыя: два разы на тыдзень. І я хачу сказаць, што такая каласальная насычанасць зусім не садзейнічала пераходу школьніка ў студэнта, як у іншую катэгорыю. Тым больш ніякай навуковай жылкі развіць у нас не магла. Да таго ж, у нашым навучанні было шмат фармальнасці. Я прывяду такі прыклад: мы вывучалі гісторыю СССР па праграме вышэйшай навучальнай установы, а здавалі экзамен... па школьнаму падручніку! Уяўляеце?! Таму што гэты прадмет не лічыўся нашай асноўнай дысцыплінай. Хаця для філолага гэта, безумоўна, асноўная дысцыпліна. Бо гісторыя з'яўляецца фонам, на якім развівалася літаратура.

Маштаб школьнага падручніка Караткевіча не задавальняў. Ён яго перарос яшчэ ў школе. Гэта я зразумела, бо Валодзю было нецікава нават на цікавых лекцыях. А выкладчык — вельмі паважаны інтэлігентны чалавек, удзельнік вайны, які цудоўна ведаў свой прадмет. І ён, канешне, жадаў цішыні і ўвагі студэнтаў. Але расказваць аўдыторыі, дзе 300 чалавек, не так проста. Хочацца ж бачыць і вочы слухачоў, і тое, як яны канспектуюць.

Аднойчы, седзячы на такой лекцыі, Валодзя з кімсьці размаўляў, хіхікаў. А Караткевіч не ўмеў хіхікаць ціха. Ён сваім голасам хі-хі-каў! Адным словам, каменціраваў лектара. Не кожны студэнт мог сабе дазволіць падобнае. І Валодзя дакаменціраваўся да таго, што яго паднялі і адправілі з аўдыторыі пагуляць.

Добра, што выкладчык аказаўся няпомслівы і нязлосны. Ён спытаўся: "Хто вы? А, Караткевіч! Зваць Уладзімір? А па бацьку? Дык вось, Уладзімір Сямёнавіч, калі ласка, пакіньце аўдыторыю". Трэба сказаць, Уладзімір Сямёнавіч не стаў пярэчыць. Ён усміхнуўся, узяў свой партфель і пайшоў. З таго часу гэты выкладчык інакш, як Уладзімір Сямёнавіч, яго і не называў. Дарэчы, вельмі цікава ўзяць Валодзеву заліковую кніжку і паглядзець, што ў яго там па гісторыі. Я думаю, што пяцёрка. Выкладчык быў разумны чалавек, і Валодзя як студэнт яму падабаўся. Яны тады асобна шмат размаўлялі. Праўда, пра што — не ведаю, Валодзя да гэтага больш не вяртаўся. Але пасля таго выпадку заўсёды хадзіў на лекцыі па гісторыі. Выкладчык ніколі больш не рабіў яму заўваг, толькі звяртаўся: Уладзімір Сямёнавіч! І гэта так гучала ў нашай аўдыторыі, дзе мы ўсе яшчэ амаль дзяўчынкі-хлопчыкі...

Але Валодзя не збягаў, скажам, у кіно падчас лекцый. Такога ён сабе не дазваляў. Ён мог не хадзіць на лекцыі тых выкладчыкаў, якіх ён не любіў (а было каго не любіць). Альбо ён лічыў, што гэты прадмет не варты яго ўвагі. Напрыклад, філасофія ў вялікай колькасці. Сёння мы ўжо разумеем, што такое дыялектычны матэрыялізм, гістарычны... ці тая ж палітэканомія сацыялізму... І нават не таму, што зараз такі час — усё крытыкуецца. Проста мы самі пражылі жыццё...

(Працяг будзе).

АБРАННЕ ВЕЧНАСЦІ

# Адам МІЦКЕВІЧ І Уладзімір НЯКЛЯЕЎ — АДНАДУМЦЫ ПРАЗ СТАГОДДЗІ

● Алена ЯСКЕВІЧ.

І ўжо ў "Санетах", калі паэт прадчуваў, што сваю Наваградчыну, сваю Беларусь, званую Літвою, ён болей не ўбачыць, гэтаксама як не спаткаецца ўжо з сваёй каханай Марыляю, не верне яе імя ў сваю паэзію, Марыля стане для яго, як для Петраркі Лаура, — нават больш, імя Марылі заменіць Лаура, — і не толькі ў стылізацыях "Да Лауры", "З Петраркі", але і ў іншых вершах: "Успамін", "Да Нёмна", "Багаславенне". Стаўленне да любай — як промня ангельскага святла — прагучыць у вершы "Дзе ўсвячаны калісь тваіх воч цеплынёю":

**Дзе ўсвячаны калісь тваіх воч**
**цеплынёю**
**Рос квет, што варты быў**
**архангельскае**
**скроні,**
**Быў з палыном ён змешан, з ніцаю**
**вярбою.**

Фактычна санет прадзецца з благавешчанскіх матываў. Вобразы Марылі, Беларусі—Літвы, нібы кветкі, праз архангельскую любоў-агапію спалучаюцца са святасцю Дзевы Марыі, зусім як на Яе іконе "Неўвядальная Квецень". Як і ў апостала Пятра, у душы Адама Міцкевіча, якая увесь час, паводле слоў старабеларускага пісьменніка Антонія Радзівілаўскага, была "агародкам Дзевы Марыі", нітуецца лучнасць дабрадзецеляў-дабротаў, бы пераліва духоўных колераў вясёлкі. Паэт заклікае нас праз перажыванні свайго лірычнага героя пайсці ўслед за Багародзіцай па шляху святасці, "прыкладаючы да гэтага ўсе старанні, паказваючы ў веры цноту, у цноце розум, у розуме стрыманасць, у стрыманасці цярплівасць, у цярплівасці пабожнасць, у пабожнасці браталюбства, а ў браталюбстве любоў":

**Калі мясціна зарасце пустой травою,**
**Ці ўзыйдзе чысты квет на ёй у тым**
**палоне!**
**Вазьмі ж букет — не варты ён тваёй**
**далоні,**
**Ды ўзрос, асвечаны прысутнасцю**
**тваёю.**

У сусветнай кампаратывістыцы ўсё больш пашыраецца паняцце "тыпалогіі скразных уплываў", калі, "нягледзячы на геаграфічную раз'яднанасць усходняга і заходняга свету, канцэпцыя асветніцкай дзейнасці і глыбінна патрыятычнай творчасці пісьменнікаў" носіць скразны характар пранікнення ў абсягу некалькіх нацыянальных культур на працягу амаль усёй гісторыі ўзаемасувязей.

Генетычная і тыпалагічная роднасць вобразных сістэм вялікага навагрудца А. Міцкевіча і слыннага смаргонца У. Някляева якраз і дапамагае вытлумачыць у нечым загадкавую з'яву — наследаванне ў творчасці Уладзіміра Някляева і традыцый петраркаўскай лірыкі. Ці не пра гэта сведчыць падсвядомы зварот Някляева да сярэдневяковых алегарычных жанраў фрашкі і маралітэ, услед за Петраркам і Рансарам, Кальдэронам і П. Бярындаю, Лопэ дэ Вегам і С. Полацкім, Каханоўскім і Ужэвічам, да іх вытанчанай манеры пісьма "дотыкам", што літаральна пераўтварае інструментоўку яго вершаў: ледзь не скульптурны лаканізм — у летуценныя, філіграна выпісаныя радкі, дзе амаль кожнае слова тоеснае вобразу ці сімвалу, калі за вонкавай лёгкасцю хаваецца глыбінны драматызм пачуцця і мудры псіхалагізм светаўспрымання:

**Намацваць рух радка, які ў зачыне,**
**Як шыць туман ці аблачыну ткаць...**
**І ўсё ж пачаць — хоць напачатку знаць,**
**Што слоў, напісаных на аблачыне,**
**Ніколі і нікому не чытаць.**

Засваенне вобразаў Петраркі ў Някляева ідзе бы ад процілеглага, як ні дзіўна, яго лірычная гераіня бліжэй не да жывой, а да адышоўшай Лауры:

**Магчыма,**
**радасцю салодкаю калісьці**
**Было каханне, хоць не ведаю, калі;**
**Цяпер — на жаль! — яно мая бяда...**
**У вачах, на вуснах — толькі знакі**
**болю,..—**

мабыць таму, што лірычная лінія герояў сучаснага беларускага паэта прасякнута не столькі цнатлівым мудрым пачуццём, як у Ф. Петраркі ці пазнейшага Міцкевіча, а дэталёва распісанымі праявамі, своеасаблівай анталогіяй страсці (страсці, а не любові!) — як хваробы пачуцця:

**Твае вочы, як вокны бальніцы.**
**Колькі боляў за імі, мой Бог!**
**Нас ад волі ніхто не ўсцярог —**
**І на ростані нашых дарог**
**Б'юць і б'юць**
**след у след**
**бліскавіцы.**
**Па слядах даганяюць грамы.**
**Невылечны, як глуханямы,**
**Наш сусвет, дзе аслепла надзея.**

У наш час у культуралогіі ўсё часцей узнікае, пашыраецца меркаванне, што сістэма мастацкіх стыляў — складаная і сінэргічная ў сваіх праявах у розныя гістарычныя эпохі, і як хвалі адраджэння перыядычна спрыяюць росквіту айчыннага пісьменства, так і рысы маньерыстычнай плыні з адлюстраваннем дыскамфортнага, прыгнечанага стану, унутранай драмы-крызісу з псіхалагічна абвостраным канфліктам, таксама прысутнічаюць у творчасці пісьменнікаў XX стагоддзя:

**Як бальніца, глядзіш ты начамі.**
**А на ростані нашых дарог**
**Бліскавіцы малоцяць цапамі**
**Тыя ружы, якія снапамі**
**Да тваіх панакіданы ног.**

І такі тонкі, псіхалагічна дакладны вобраз — параўнанне птушкі з каханай:

**Бронь Божа мне ўспомніць пра тое,**
**аб чым ты забылася,**
**Што з пылу ляпілася, а паўставала**
**сцяной.**
**Як ты стамілася, любая,**
**як ты стамілася**
**Побач са мной!**
**І тая птушынка, што ў вокны азяблыя**
**білася,**
**Таксама стамілася грэць невідушчае**
**шкло.**

Гэтае падсвядомае суаднясенне неяк асабліва ўзвышае някляеўскіх герояў, калі згадаць сведчанні старабеларускіх пісьменнікаў XVII стагоддзя, светачаў славянскай духоўнасці, якія лічылі, што жывёлы, птушкі, трава — істоты больш дасканалыя за чалавека, бо яны ўвесь час унутрана моляцца і таму, відаць, праз літасць Божую пазбаўлены шматлікіх жорсткасцей разумнага і ўсемагутнага чалавека. І ці не напамінам пра гэтую падсвядомую прысутнасць старабеларускай традыцыі — вельмі частае згадванне паэтам іканапісна пазначаных залатога, чырвонага і сіняга колераў:

**Там з ночы ў ноч скакала ў сне**
**Агнём па залатой сасне**
**Чырвоная вавёрка.**

**Сінечаю свяціла сліва,**
**Гулі між намі скразнякі,**
**І ты глядзела з-пад рукі**

**Няўцямна, мройна, палахліва**
**У далячынь, дзе небасхіл**
**З зямлёй зліваецца шчасліва...**

**Тут выйсце ў неба, — мовіў ён. —**
**Пераступаю я закон,**
**Наблізіўшы да зор жанчыну.**
**Марыя! Зоры ўсе — твае...**
**І ён накінуў на яе**
**Апратку жоўта-залатую.**

Працяг.
Пачатак у № 48.

(Заканчэнне будзе).

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ

# НАШЧАДКІ АГІНСКАГА

*Падчас свайго побыту на радзіме Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей наведаў пасол Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі Уладзімір Шчасны. З Уладзімірам Рыгоравічам мы знаёмыя даўно, таму пры выпадку абавязкова абменьваемся навінамі. У. Шчасны расказаў аб жыцці нашых землякоў у Англіі, аб планах пасольства ў наступным годзе правесці ў Лондане выставу прадукцыі прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці Беларусі, канферэнцыю для дабрачынных арганізацый Англіі. Было абмеркавана таксама некалькі важных пытанняў па супрацоўніцтву. Ад Уладзіміра Рыгоравіча даведаліся яшчэ пра адну цікавую старонку з нашай гісторыі.*

Нашчадак аднаго з заснавальнікаў Вялікага Княства Літоўскага, кампазітара і дыпламата Міхала Клеафаса Агінскага стала жыве ў Англіі. Некалькі гадоў таму беларускае пасольства наладзіла з ім сувязь. Іво Залускі з'яўляецца праправнукам нашага славутага земляка ад шлюбу з Марыяй дэ Неры. Музыказнаўца па адукацыі, ён шмат увагі надае папулярызацыі твораў М. К. Агінскага. Ім запісаны на выпушчаным у Вялікабрытаніі кампакт-дыску музычныя творы дынастыі Агінскіх. У маі 1997 года пасольствам была арганізавана паездка Іво Залускага і яго жонкі Памелы ў Беларусь. У час знаходжання ў нашай краіне Залускія прынялі ўдзел у якасці членаў журы ў Смаргонскім фестывалі юных музыкантаў імя М. К. Агінскага. Іво Залускі выканаў творы дынастыі Агінскіх у камернай зале Белдзяржфілармоніі, зрабіў запіс для новага кампакт-дыска твораў дынастыі Агінскіх для выкарыстання ў музычных перадачах. Адзін з запісаных твораў ужо неаднаразова гучаў па Беларускім радыё.

Цяпер Іво Залускі ўдзельнічае ў выпуску другога кампакт-дыска музыкі дынастыі Агінскіх. Апрача таго, азнаёміўшыся ў час знаходжання ў Мінску з відэазапісам сцэнічнага выканання оперы А. Радзівіла "Фаўст", ён зацікавіў адну з вядучых брытанскіх кампаній гуказапісу "Алімпія" ідэяй выпуску кампакт-дыска з гэтай операй.

Іво Залускі зрабіў адпаведныя захады па арганізацыі ў будучыні выступлення ў Вялікабрытаніі пераможцаў конкурсу імя М. К. Агінскага — трыо выхаванцаў Мінскага музычнага ліцэя. Да таго ж на пачатку гэтага года А. Залускі перадаў Мінскаму музычнаму ліцэю і музычным калектывам Смаргоні ўласную аранжыроўку твораў М. К. Агінскага.

Брат Іва Анджэй Залускі, які таксама з'яўляецца музыказнаўцам і жыве ў Вялікабрытаніі, напісаў кнігу пра славутага продка. У час работы над кнігай ён пры дапамозе пасольства наведаў у лістападзе 1996 года маёнтак Агінскіх у Залессі (Смаргонскі раён), Мінск, дзе меў шэраг сустрэч у Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны, Беларускай акадэміі музыкі. Вынікам паездкі ў Беларусь стаў асобны раздзел, прысвечаны Беларусі, у кнізе "Час музыкі Міхала Клеафаса Агінскага", якую выпусціла ў свет у верасні 1997 года лонданскае выдавецтва "New Millennium". Анджэй пісьмова выказаў намер перадаць аўтарскі ганарар, а таксама адпаведны прыбытак ад публікацыі яго кнігі ў Беларусі на рэстаўрацыю маёнтка Агінскіх у Залессі. Пры навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны створаны грамадскі камітэт на чале з прафесарам А. Мальдзісам па ажыццяўленні праекта публікацыі кнігі А. Залускага ў мэтах шырэйшай папулярызацыі творчасці М. К. Агінскага і атрымання сродкаў для выкарыстання іх на рэстаўрацыйныя работы. Кніга ўжо перакладзена і рыхтуецца галоўным рэдактарам выдавецтва "Чатыры чвэрці" Ліліянай Анцух да публікацыі.

**Ніна ПЕТУХОВА,**
*супрацоўнік Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі.*

ЛАТВІЯ





У Мінску ў літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася выстава латышскага мастака Вячкі Целеша (Вячаслава Целеша) — беларуса па паходжанню. Вячаслаў Міхайлавіч скончыў Латвійскую мастацкую акадэмію і з'яўляецца кіраўніком аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Світанак". Работы Целеша знаходзяцца ў прыватных калекцыях і музеях Латвіі, Беларусі, Эстоніі, Расіі, Румыніі, Кітая, ЗША, Канады. Тэматыка работ, якія выканаы ў жанры жывапісу, станковай графікі, экслібрыса, — гісторыя, культура, традыцыі роднай Беларусі. Выстава работ мастака выклікала цікавасць мінчан.

*НА ЗДЫМКАХ:* Вячка Целеш з вучнямі Мінскага мастацкага ліцэя; побач з сваёй карцінай "Максім Багдановіч".

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.*

РЭСПУБЛІКА КОМІ

# НА ДАЛЁКАЙ ПОЎНАЧЫ

Складаны цяпер час, і не кожны можа наведваць свой родны куток, дзе ён нарадзіўся, падтрымліваць сувязь з землякамі. Вось і ствараюць беларусы нацыянальныя арганізацыі, каб не забыць сваю мову, гісторыю, культуру. Вясною мінулага года ў Комі ў горадзе Сыктыўкар зарэгістравана нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусь". Асноўная яе мэта — захаванне самабытнай культуры, традыцый беларускага народа. Старшынёй савета абраны Аркадзь Крупенька, былы міністр мясцовай прамысловасці, а цяпер пенсіянер. Энергіі, ініцыятыве гэтага чалавека можна толькі пазайздросціць. Яго заўсёды запрашаюць на розныя мерапрыемствы, што праводзяць дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі Комі. А нядаўна Аркадзь Сцяпанавіч прыязджаў у Мінск у складзе ўрадавай дэлегацыі Рэспублікі Комі. Падчас сустрэчы Аркадзь Сцяпанавіч расказаў аб жыцці нашых суайчыннікаў у гэтым далёкім паўночным краі. У рэспубліцы каля 27 тысяч беларусаў, якія жывуць ва ўсіх гарадах і раёнах Комі. Сярод іх — продкі былых ахвяр "кулацкай ссылкі", палітычных рэпрэсій 30—40 гадоў. Але большасць беларусаў трапіла сюды ў асноўным у пасляваенныя гады, калі разбуранай краіне асабліва патрэбны былі вугаль, нафта, газ, лес. Сярод іх шмат выпускнікоў Мінскага лесатэхнічнага інстытута. Яны працуюць на адказных пасадах у лясной прамысловасці, у леспрамгасах.

Як і ўсюды, беларусы ў гэтым краі вельмі паважаныя людзі. Іх выбіраюць дэпутатамі, вылучаюць на розныя кіруючыя пасады. Напрыклад, генеральным дырэктарам акцыянернага таварыства "Аптовы гандаль" з'яўляецца Г. Набокіх, намеснікам генеральнага дырэктара акцыянернага аб'яднання "Комісувязь" — М. Сямашка, намеснікам міністра ўнутраных спраў — В. Бабошын. У многіх міністэрствах, упраўленнях, на заводах кіраўнікамі таксама з'яўляюцца беларусы.

У Комі існуюць аддзяленні беларускай аўтаноміі ў Саснагорску, Ухце. У Саснагорску жыве славуты наш зямляк — Георгій Усціловіч, актыўны член мясцовага "Мемарыяла". Не шкадуючы сіл, ён увесь свой час праводзіць у архівах, каб адшукаць звесткі аб рэабілітаваных беларусах, якія былі высланы з Беларусі ў Комі. Гэтыя прозвішчы потым друкуюцца ў перыядычных беларускіх выданнях.

**Ніна ТУР.**

ЛІТВА

# КАБ ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ...

У час восеньскіх канікулаў амаль кожны год, колькі працуе ў Вільні беларуская школа, вучні адпраўляюцца ў вандроўку на радзіму продкаў — Беларусь. Пахмурны лістападаўскі ранак, кароткія восеньскія дні. А жадаючых ехаць, як заўсёды, шмат. Гэтым разам паехалі і вучні пачатковых класаў. У першы дзень — экскурсія ў музей Якуба Коласа, вечарам — цырк. Некаторыя ўпершыню ў сапраўдным цырку, паглядзелі цікавую праграму "Цырк, лёд і белыя мядзведзі". На другі дзень зранку адправіліся па "залатому кальцу" Беларусі ў Мір і Нясвіж. Вучні школы бывалі на экскурсіях у Троцкім замку, а тут была магчымасць параўнаць, успомніць гісторыю, літаратуру. Вельмі добра складзена праграма вандроўкі: музей Я. Коласа ў Мінску, Нясвіж, дзе паэт вучыўся, па дарозе праязджалі Стоўбцы, дзе ён нарадзіўся.

Вечарам наведванне тэатра Янкі Купалы, глядзелі спектакль "Лес" па п'есе А. Астроўскага. На трэці дзень экскурсія па гораду, пакаталіся ў мінскім метро. Цікавыя і насычаныя тры дні праляцелі хутка. Позна вечарам стомленыя, але поўныя ўражанняў вярталіся ў Вільню. Асабліва запомнілася экскурсія самым малым вандроўнікам. Як нейкі цуд, яны распавядаюць пра помнік прыроды — дуб і сасну, пра Нясвіжскі парк і помнік сабачку, пра вялікія замкі і легенду пра Барбару Радзівілайце. Наступная экскурсія, як дапаўненне, у палац Радзівілаў у Вільні, каб глыбей пазнаёміцца з іх легендарным родам. У Нясвіжы набылі цудоўную кнігу — фотаальбом "Нясвіж". Як вынік вандроўкі вучні пісалі сачыненні, аформілі стэнд "Па залатому кальцу Беларусі".

Такія экскурсіі не толькі пашыраюць кругагляд, а і даюць магчымасць больш глыбока пазнаёміцца з гісторыяй, культурай, літаратурай Беларусі, стаць духоўна багацейшым, а можа і дабрэйшым.

Вандроўка здзейснілася пры дапамозе Міністэрства адукацыі Беларусі, дзякуючы Г. Пяцігору, адміністрацыі школы — дырэктару Г. Сівалавай, завучам — Д. Базар і Р. Ваініцкаму, сталаму спонсару школы імя Ф. Скарыны фірме "Літполінтар" і яе кіраўніку Міхасю Руневічу, якія на кожную вандроўку выдзяляе школе двухпавярховы аўтобус.

**Леакадзія МІЛАШ.**



*У музеі Якуба Коласа.*
*Фота аўтара.*

ПЕРАПІСКА

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**ТРАФІМЧЫК Любоў Лук'янаўна**, якая жыве па адрасу: Беларусь, вёска Малдовічы, Дзятлаўскі раён, Гродзенская вобласць,

шукае **ТРАФІМЧЫКА Іосіфа Бенядзіктавіча**, яго сясцёр: ураджаных **ТРАФІМЧЫК Настассю Бенядзіктаўну** і **ТРАФІМЧЫК Аляксандру Бенядзіктаўну**, якія ў 30-я гады паехалі ў ЗША. Месца магчымага пражывання — горад Чыкага і яго наваколле.

Звяртацца на адрас:
**220034, г. Мінск,**
**вул. Захарава, 23.**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".**
**тэл/факс: 284-75-15, тэл. 236-34-54.**

### *РАДОК З ПІСЬМА*

Калісьці якуцкі паэт Сямён Данілаў, знаны перакладчык твораў Адама Міцкевіча на якуцкую мову, у складзе дэлегацыі пісьменнікаў пабываў у Польшчы. Як вынік гэтага ў якуцкамоўнай рэспубліканскай газеце "Кыым" з'явілася нізка вершаў і сярод іх верш "Міцкевіч".

**Алесь БАРКОЎСКІ.**

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ Маргарыты СТАРЫХ

# САЛОДКАЯ БАБУЛЯ

*Пякарскія фантазіі Валянціны Уласік са Стоўбцаў уразілі не толькі суайчыннікаў, але і галандцаў, немцаў, чэхаў, эстонцаў... I зусім не выпадкова, бо тое, чым яна займаецца, унікальнае, а адсюль і званне незвычайнае — народны майстра пякарскай скульптуры. I яшчэ адно званне ёсць у гэтай дзіўнай жанчыны. "Салодкая бабуля", — так клічуць яе дзеці-інваліды з Рэспубліканскага цэнтра, з якімі яна сябруе і якіх песціць сваімі ласункамі.*



*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.*

...Іх і есці спачатку шкада: як такое харaство разбурыць! Вожыкі, як жывыя, рыжанькія лісічкі ў кошыку нібыта толькі з лесу. А хрушчы! А пра адзін паветраны бела-ружовы цуд унучка Валянціны Канстанцінаўны аднойчы сказала: "Мільён-мільён чырвоных ружаў". Але не менш за дзяцей радуюцца яе пякарскім дзівосам і дарослыя. Некалькі гадоў таму Саюз майстроў народнай творчасці наладзіў прыём для жонак дыпламатаў, што акрэдытаваныя ў Мінску. Валянціна Канстанцінаўна была за гаспадыню, адказвала за стол. Паколькі я прысутнічала там, магу сведчыць: сталы, убраныя да гарбаты, былі надзвычай прыгожымі. Трэба было бачыць здзіўленне і зачараванне гасцей — куды падзеліся іх стрыманасць і важнасць! Дарэчы, Валянціну Канстанцінаўну час ад часу ахвотна запрашаюць быць гаспадыняй вечара і ў Беларускім таварыстве дружбы.

Але ўсё гэта быццам бы дробязі, бо галоўным для майстрыхі з'яўляюцца караваі-тарты з трох'ярусньмі або і чатырох'ярусньмі кампазіцыямі, населенымі фігуркамі, кожная з іх мае свой сэнс, сімвал. "Мне толькі тэму каб далі, і я, што хочаш, выпяку", — з гонарам і ўпэўненасцю сцвярджае яна. І гэта сапраўды так. Вось выпекла Валянціна Канстанцінаўна да 100-годдзя Кандрата Крапівы, вялікай паклонніцай якога з'яўляецца, каравай, упрыгожыла яго фігуркамі персанажаў з баек пісьменніка. І сама лічыць: "Самы ўдалы з усіх атрымаўся".

А яшчэ любіць яна вясельныя караваі-тарты выпякаць. І ўсё ў яе са значэннем тут: галубы, лебедзі, вожыкі і іншыя персанажы, з сахарнай пудры вылепленыя ці з цеста. У віншавальнай сваёй картачцы, якая да вырабу прыкладаецца, Валянціна Канстанцінаўна тлумачыць, што да чаго: "...Каб былі, як галубочкі, каб шчабяталі, як сарочкі, каб не каполіся, як вожыкі, каб былі здаровыя, як мядзведзі, каб уставалі з пеўнямі, каб квітнелі, як ружачкі, каб буслы прыносілі ў хату немаўлятак" і гэтак далей. Адным словам, цэлая паэма.

А пачалася гэта паэма даўным-даўно. Адно з самых яркіх уражанняў дзяцінства — прыход вясны. Да яго рыхтаваліся ў кожнай хаце — чысцілі, скрэблі, мылі, а калі парадак быў наведзены, замешвалі цеста для жаўрукоў. Потым з гэтымі дзіўнымі птушкамі, у якіх заместа вачэй былі разынкі, выходзілі на вуліцу і спявалі — старыя і малыя:

**Вясна-красна, адкуль прыйшла,**
**Адкуль прыйшла, што прынясла!**
**— Прынесла я цёплае лецейка:**
**Малым дзеткам — па яечку,**
**Старым бабкам — па кіёчку,**
**Красным дзеўкам — па вяночку,**
**Маладзіцам — па сярпочку.**

— Бабуля мая, Марыя Сямёнаўна, пякла выдатных жаўрукоў, — успамінае майстар. — І калі яна завіхалася ля печы, я ў той час на дварэ таксама "пякла" сваіх птушак. Толькі з гліны. У Мікалаеўшчыне яна асаблівая — карычневая, мяккая, вельмі прыдатная для "выпечкі".

Падрасла, маці з бабуляй сталі падпускаць мяне да печы, і мае жаўрукі зусім не саступалі іхнім. У нас на Стаўбцоўшчыне жаўрукі яшчэ былі нязменным упрыгажэннем вясельных караваяў: па версе яго "рашотка" з шышачкай у цэнтры, а па краях — жаўрукі.

Калі ў Галандыі, у вёсцы Маркела, гасцявала, запрасілі мяне на вяселле, дык я маладым беларускі вясельны каравай спякла. Здзіўляліся, разглядвалі...

Але здзіўляліся не толькі пякарскаму майстэрству Валянціны Канстанцінаўны, а і яе іншым кулінарным здольнасцям, а таму ў сям'і, дзе жыла, зусім не пярэчылі, каб усе два тыдні гасцявання яна гатавала дранікі, верашчакумачанку, "клёцкі з душамі" і іншыя беларускія стравы. Тая ж гісторыя паўтарылася і ў Германіі. Праўда, тут Валянціна Канстанцінаўна яшчэ здзівіла тым, што адмовілася прыняць у падарунак мікрахвалевую печ. Усміхаючыся, яна расказвае:

— Я ім сказала, што ў мяне дома дзве такія ж. Ну, падумайце, навошта мне гэта мікрахвалеўка? Паўфабрыкаты для разагрэву-падагрэву?.. Наогул, дзіўна, як яны ўсё жыццё харчуюцца толькі паўфабрыкатамі? Гэта ж нясмачна, ды і нездарова. Так што лепш за маю печ, такую ж, як некалі была ў бабулі, нічога няма: у ёй усё можна прыгатаваць, зварыць, спячы... Ды і смак ежы зусім іншы, асаблівы.

Гасціннасць — гэта таксама адзін з талентаў Валянціны Канстанцінаўны. Каб так сустракаць гасцей, як яна, не толькі жаданне, але і выдумку, фантазію мець патрэбна. Ну а ўжо пра вяселлі ўласных дачок і гаварыць няма чаго: здзіўляліся госці не толькі вясельнаму караваю, а і самому вяселлю: прыпеўкі, жартоўныя медалі, гарэзлівыя наклейкі на бутэльках з моцнымі напоямі і шмат чаго яшчэ зрабілі сваю справу — стварылі непаўторную атмасферу свята, якое выйшла далёка за рамкі звычайнага застолля.

...Адзін з апошніх сваіх караваяўтартоў Валянціна Канстанцінаўна выпекла на 40-годдзе свайго любімага зяця Сяргея. Што ўжо і гаварыць, пастаралася цешча з нагоды такога выпадку, бо зяць жа, акрамя ўсяго іншага, з некаторага часу першы памочнік у яе пякарстве.

— Цеста замесіць, а потым усё, што я з яго наляплю, так акуратна размалюе, — не можа нахваліцца сваім зяцем яна, — а то і сам штосьці-небудзь выпеча. Лісічкі ж Сярожа заўсёды сам пячэ. Я з ім і ўнучкай Людай — таксама памочніцай маёй — на ўсе фестывалі народнай творчасці езджу.

Мінулай восенню Валянціна Канстанцінаўна з зяцем і ўнучкай у Рэспубліканскім фестывалі сямейнай творчасці, што праводзіўся ў Слоніме, удзел прымала. Іх калядны стол з выпечанымі батлейкай, ёлачкай, карагодам звяроў, канешне ж, прыцягнуў агульную ўвагу, як, мусіць, адбылося б, калі б гэта датычылася Гукання вясны ці Вялікадня.

А чытачам прапануе Валянціна Канстанцінаўна такі рэцэпт пасхі тварожнай:

1 кілаграм тварагу, шклянка цукру, масла сметанковага 100—150 грамаў, 2 стаповыя лыжкі смятаны, разынак 100 грамаў, соль.

Цукар і масла давесці на агні да кіпення, потым змяшаць з тварагом, смятанай і астатнімі кампанентамі. Сумесь добра вымесіць і паставіць на паравую баню, не забываючыся час ад часу памешваць.

Гатовая сумесь астуджваецца і перакладваецца ў спецыяльна пашытую торбачку-клінок ці проста марлечку і змяшчаецца пад прэс на некалькі гадзін. Гатовую пасху перакідваюць на блюда і ўпрыгожваюць крыжом, які можна проста намаляваць харчовымі фарбамі ці выкласці цукеркамі "гарошак", падфарбаванымі зярняткамі рысу.

## РАЗЬБЯР СА СТОЎБЦАЎ



Валерый Чараднічэнка — выкладчык працы ў школе № 1 горада Стоўбцы.

Яго захапленне — разьба па дрэву. Прыгожыя, сапраўды мастацкія творы ў Чараднічэнкі атрымліваюцца. Тэматыка іх разнастайная. Паглядзіце на фотаздымкі — і пераканаецеся, што ў Валерыя Фёдаравіча талент мастака, што ён свае вырабы робіць з душой і фантазіяй.

*Фота Віктара СТАВЕРА.*



Голас Радзімы

Рэдакцыйная калегія

**Заснавальнікі:**
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 2198.
Падпісана да друку 7. 12. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**
**Тэлефоны:**
**(+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.**